**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:

Мінск — 4.40, 21.45, 17.05;
Віцебск — 4.20, 21.44, 17.24;
Магілёў — 4.30, 21.34, 17.04;
Гомель — 4.36, 21.22, 16.46;
Гродна — 4.57, 21.58, 17.01;
Брэст — 5.07, 21.49, 16.42.

**МЕСЯЦ:**

Апошняя квадра 23 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**

Мануіла, Савела, Ісмаіла; Эміліі, Люцыны.

# ЗВЯЗДА

30 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
аўторак, № 129 (21907)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


# РОЗГАЛАС

## ГЭТА САЛОДКАЕ СЛОВА—МЭБЛЯ

**Уявіце сабе, што вы атрымалі новую кватэру або проста вырашылі памяняць мэблю ў старой. Зараз такое «задавальненне» каштуе вялікіх грошай і далёка не кожнаму па кішэні. У гэтым можна пераканацца, пабываўшы ў некаторых мэблевых магазінах Мінска.**

Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, дык кватэры, часцей за ўсё—з прыхожай. Ужо тут трэба добра трасянуць свой кашалёк, бо бытавая паліца каштуе 221 рубель, а шафа для абутку «цягне» ажно на 530 «драўляных».

Далей патрабуецца абставіць кухню. Звяртаемся ў магазін № 3 «Кухні», і тут жа павольна апускаюцца рукі перад цэннікамі: кухонны гарнітур «Вольга» — ад 14.650 да 16.565, «Бярэзіна» —14.103—14.504, «Пралеска» —13.522—18.994 рублёў. Калі ў вас хопіць смеласці паставіць у кухню халадзільнік, то, напрыклад, «Мінск-15» абыдзецца ў 19.435 рублёў, астатнія—плюс-мінус дзве тысячы. А просты кухонны стол каштуе 840 рублёў.

Самыя вялікія праблемы (і адпаведна затраты) выклікае зала. У магазіне № 1 «Дом мэблі» простыя крэслы для адпачынку каштуюць 5.400 рублёў, секцыя «Свір» абыдзецца ў 20.247 рублёў, «Арлея»—17.750, а за самы танны «Вендэж» трэба выкласці 13.599 рублёў. Многія ставяць у зале пісьмовы стол, які зараз «возьме» з сямейнага бюджэту ад 2.440 да трох з палавінай тысяч «драўляных», а таксама кніжную шафу (4.548 рублёў) і стол-кнігу (2.200 рублёў).

Дрэнна, калі няма тэлевізара, але яшчэ горш, калі ён ёсць, таму што пад яго патрэбна падстаўка, якая каштуе 353 рублі і больш. Упрыгожаць залу фоташпалеры, але ў залежнасці ад прыгажосці краявідаў яны абыдуцца ад 29 да 288 рублёў за трубку.

Найбольш інтымнае месца ў кватэры—спальня для дарослых. Яна ж можа стаць канкурэнтам зале ў сэнсе колькасці грошай для яе абсталявання. Магазін № 4 «Спальні» прапануе ложак паўтараспальны за 4—4,5 тысячы рублёў, прыложкавыя тумбачкі (700 рублёў), спальні «Медуніца» (ад 29 да 31 тысячы), тумбы для ложка па 1.610, трумо—1.852 рублі. Тумбы для бялізны ідуць за 1.610, а простая раскладушка—за 700 рублёў.

Дзіцячая спальня таксама патрабуе «недзіцячых» расходаў, калі ўлічваць, што ложак металічны дзіцячы каштуе да 1.510 рублёў, ложак юнацкі—2.980, а крэслы складныя дзіцячыя—468 грашовых адзінак. Такім чынам, калі вы жадаеце, каб ваша кватэра была абстаўлена хоць бы па неабходнаму бытавому мінімуму — рыхтуйце не менш як 100 тысяч рублёў. За камфорт і элегантнасць трэба будзе выкласці 150—180 тысяч, бо, напрыклад, модны цяпер набор мяккай мэблі «Бальсан» каштуе ажно 32 тысячы (і гэта не мяжа). А калі ў вас такіх грошай няма, то бярыце ў рукі малаток, цвікі і дошкі і... за работу. Пры адсутнасці сталярскіх даных прапануем яшчэ адно выйсце—набываць мэблю ў маленькіх гарадах, дзе якасць яе ніжэйшая, але і цэны не выклікаюць радзімчыка ў пакупнікоў.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## ЗАПІСАЛІСЯ ДЗЕЦІ Ў «ПАРТЫЗАНЫ»

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). Ездзіць па чыгунцы з некаторага часу тут стала небяспечна. Іншы раз у вокны вагонаў сыплецца град камянёў і металічных шарыкаў, якія ўшчэнт разбіваюць шкло і раняць пасажыраў. Ёсць выпадкі нагрувашчвання на рэйкі цяжкіх металічных прадметаў. А псаванне светлафораў і лавак у вагонах, з якіх зрываецца дэрмацін, сталі з'явай звычайнай.**

**Гэтыя і іншыя дзеянні — справа рук падлеткаў, што паспяхова гуляюць у «рэйкавую вайну». Праўда, і злучэнні «народных мсціўцаў» нясуць немалыя страты. Міліцыя ўжо ўзяла ў «палон» 211 «юных партызан», пад коламі лакаматываў загінула каля 100 падлеткаў.**

**Мяркуючы па тым, што выхаваннем маладога пакалення ніхто не займаецца — ні бацькі, ні школа —«рэйкавая вайна» будзе працягвацца. Дакуль — ніхто толкам сказаць не можа.**




Як паведамляе аддзел знешніх сувязей Чарнобыльскай АЭС, «...стан канструкцый аб'ектаў «укрыцця» адпавядае нормам, устаноўленым пры будаўніцтве». Галоўны інжынер станцыі В. Васільчанка наступным чынам пракаменціраваў гэты факт: «Узровень бяспекі, які быў закладзены на аб'екце ў 1986 г., сёння нас не задавальняе. Агульная плошча шчылін (а іх быць не павінна) і розных адтулін на аб'екце «ўкрыццё» складае 1 тысячу кв. м па ўсёй плошчы саркафага. Тым не менш я хацеў бы заспакоіць радыёслухачоў: выкіды ў атмасферу сёння тут у сто разоў меншыя, чым выкіды, якія з'яўляюцца нормай для працуючых блокаў АЭС».

***

**З першага ліпеня ў Беларусі ўводзяцца лімітныя карткі спажыўца на атрыманне бензіну аўтааматарамі. Мера гэта вымушаная і прынята ў сувязі з вывазам вялікай колькасці паліва ў Прыбалтыку, на Украіну і ў Расію. Так званыя «ліміткі» дадуць права на атрыманне 80-ці і 30-ці літраў бензіну адпаведна ўладальнікам аўта- і мотатранспарту. Як заўважыў у гутарцы з карэспандэнтам праграмы «Радыёфакт» начальнік тэхнічнага ўпраўлення Дзяржкамнафтапрадукта Беларусі Л. Бацвіненка, рэалізацыя насельніцтву Беларусі бензіну ўзрасце з 920 літраў летась да 960 сёлета.**

***

Прызначаны новы камандуючы 14-й арміяй, якая дыслацыравана ў Прыднястроўі. Гэта генерал-маёр Лебедзь. Ён правёў сваю першую прэс-канферэнцыю і заявіў, што армія працягвае трымаць нейтралітэт, але гэта будзе нейтралітэт узброены. Што датычыцца прыднястроўскай праблемы, то гэтым павінны займацца Украіна, Расія і Малдова, але без Румыніі, падкрэсліў камандуючы.

***

**У Валожыне створаны раённы камітэт Партыі камуністаў Беларусі і Рада раённай суполкі БНФ «Адраджэнне». Лідэрам камуністаў стаў старшыня мясцовай арганізацыі ветэранаў вайны і працы Аляксандр Ластачка, рух народафронтаўцаў ўзначаліў настаўнік Алег Раманоўскі.**

Бліжэйшай задачай партыйных актывістаў, паводле слоў першага сакратара райкома ПКБ, з'яўляецца ачышчэнне сацыялістычных ідэй ад скажэнняў, дапушчаных у папярэднія гады. Мэта суполкі БНФ — аб'яднанне ўсіх дэмакратычных плыняў, падрыхтоўка да правядзення рэферэндуму.

***

**Нацыянальны банк Беларусі прыняў рашэнне: з мэтай поўнай ліквідацыі запазычанасці пры адсутнасці рублёвай наяўнасці дазволена выкарыстанне разліковых білетаў у неабходнай колькасці па жаданню прадпрыемстваў, грамадзян. Выдача даходаў будзе рабіцца ў размеры да 50-ці працэнтаў ад належных да выплаты сум, а ўсе іншыя абмежаванні здымаюцца. Гэта значыць, цяпер заработную плату можна будзе атрымаць разліковымі білетамі на суму больш як дзве тысячы рублёў (200 разліковых білетаў) і толькі па жаданню ўсю зарплату — «зайчыкамі».**

## ПЫТАННЕ, ЯКОЕ НАСПЕЛА, АЛЕ... НЯХАЙ ВЫКАЖАЦЦА ГРАМАДСКАСЦЬ

### ПАСТАНОВА

### КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННЮ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ «АБ ГАНАРОВЫХ ЗВАННЯХ У ГАЛІНЕ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ»

**1. Лічыць немэтазгодным і неапраўданым прысуджэнне ганаровых званняў у галіне мастацкай творчасці.**

**2. Звярнуцца да грамадскасці рэспублікі з просьбай выказацца па гэтаму пытанню ў друку, па радыё і тэлебачанні, у пісьмах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, на сходах і іншых форумах.**

**3. Калі шырокая грамадскасць падтрымае думку камісіі — апошняя вынесе пытанне аб ганаровых званнях на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

Камісія прыйшла да высновы, што варта адмяніць урадавыя пастановы аб ганаровых званнях у галіне мастацкай творчасці. Стымулы заахвочвання творцам павінны быць іншыя — перш за ўсё матэрыяльныя: за вельмі таленавітую работу трэба вельмі добра плаціць (Пушкіну выдаўцы плацілі па залатому чырвонцу за радок, калі іншым — капейкі) і даваць за канкрэтны, варты ўзнагароды мастацкі твор прэміі (у Францыі толькі літаратурных прэмій звыш 500). Гэта было б адначасова і маральнай падтрымкай.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



# Як «пераўтварыць» СНД у ЕЭС?

### ДА ВЫНІКАЎ МІНСКАЙ СУСТРЭЧЫ КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ КРАІН—УДЗЕЛЬНІЦ СНД

Будзем шчырымі: усе мы, ва ўсякім разе вельмі многія, пачалі ў апошні час глядзець на далейшы лёс СНД даволі скептычна. Прычыны вядомыя: міжнацыянальныя канфлікты ў паўднёвых рэгіёнах былога Саюза, прычым паміж самімі ж удзельнікамі СНД, бясконцая дзяльба сумесна нажытай раней маёмасці і г. д. А яшчэ — вал неабавязковасцей, ігнараванне інтарэсаў адзін аднаго як эканамічных партнёраў, адсутнасць пэўнага дзейснага механізма кантролю за агульнапрынятымі дамоўленасцямі... Увогуле, СНД засядае, а жыць становіцца неяк усё менш утульна. Зрэшты, гэта ўжо непасрэдны, заканамерны вынік тых жа прычын... Што ў гэтым плане дала мінская сустрэча кіраўнікоў урадаў краін—удзельніц СНД (як, пэўна, ужо вядома чытачам, адпаведнае пасяджэнне адбылося ў мінулую пятніцу)?

Прынамсі, адразу варта спыніцца на наступным, даволі прынцыповым моманце: наконт стварэння для работнікаў сродкаў масавай інфармацыі больш-менш спрыяльных умоў для ўсебаковага, аб'ектыўнага асвятлення ходу сустрэчы, тых пытанняў, якія абмяркоўваліся. Пра такія ўмовы можна гаварыць умоўна. Гаворка аб інфармаванні журналістаў, наладжванні адпаведных крыніц інфармацыі, распаўсюджванні сярод іх праектаў пэўных дакументаў. Журналісты па сутнасці аказаліся адрэзанымі ад дэлегацый добрай адлегласцю. Праўда, да нашых паслуг было іншае — буфет з пэўным наборам асартыменту даантыалкагольнага перыяду... Няблага, але ўсё ж лепш—«пасля таго»... Ну, а наладжаная пасля пасяджэння прэс-канферэнцыя мела гэткі лятучы характар. Хоць усё можна і зразумець: кіраўнікі дэлегацый перад тым нядрэнна папрацавалі.

Аднак вернемся да нашага пытання: што дала мінская сустрэча?

Найперш варта спыніцца на наступным факце, які ўжо адзначаўся ў ранейшай інфармацыі: многіх з акрэдытаваных на сустрэчы журналістаў насцярожыла тое, што толькі на чале трох урадавых дэлегацый—Беларусі, Расіі і Таджыкістана — былі першыя асобы, на чале астатніх — намеснікі прэм'ераў. Вядома, кожная рэспубліка сама вольная вызначаць, хто павінен ехаць на перагаворы, тут таксама няма спробы прыніжаць статус намеснікаў. Але ж існуе пэўная міжнародная практыка. Зрэшты, прытрымліваюцца яе і ў рэспубліках, але, відаць, толькі ў тым выпадку, калі справа датычыцца больш далёкага замежжа. Але варта ўлічваць: СНД пакуль што кволае дзіця, яму патрэбна добрая апека. Ці не прысутнічае тут пэўны недавер да яго жыццёвасці? Падчас прэс-канферэнцыі кіраўнік украінскай дэлегацыі К. Масік, які, між іншым, падкрэсліў добры ўзровень мінскай сустрэчы, выказаў надзею, зыходзячы з гэтага пасяджэння, што СНД можа жыць і можа вырашаць адпаведныя праблемы.

Адзначаны факт, паўтару, насцярожвае, але свайго роду процівагай яму стала тое, што ўдзельнікі мінскай сустрэчы праявілі пэўную прынцыповасць у іншым, даволі далікатным пытанні: прадаставілі на гэтай сустрэчы Азербайджану і Малдове статус назіральнікаў. Прычым не проста па той прычыне, што іх прадстаўнікі не мелі адпаведных паўнамоцтваў, але найбольш з-за таго, што Азербайджан і Малдова да гэтага часу не ратыфікавалі пагадненняў аб уступленні ў СНД. Каменціруючы гэты факт на прэс-канферэнцыі, беларускі прэм'ер В. Кебіч зазначыў, што пара быць абавязковымі: яшчэ на папярэдніх пасяджэннях гаварылася, што дзяржавы, якія не ратыфікавалі ўступленне ў СНД, не будуць прысутнічаць у якасці раўнапраўных членаў. Пры гэтым В. Кебічам было падкрэслена: так будзе і надалей.

І сапраўды, нікога не трэба цягнуць у СНД за вушы.

Якія пытанні разглядаліся на мінскай сустрэчы і чым закончылася іх абмеркаванне?

Бясспрэчна, асноўнае пытанне — парадак увядзення нацыянальных валют у рэспубліках, якія ўваходзяць у СНД. Вядома, калі нехта пажадае гэтага. Як заявіў расійскі прэм'ер Я. Гайдар, які ў асноўным і даваў тлумачэнні, разгледжаны сур'ёзны дакумент. Найперш — усё павінна рабіцца цывілізавана, без грэбавання інтарэсаў іншых удзельнікаў СНД, якія застаюцца ў рублёвай зоне.

Усё гэта датычыцца пераважна Украіны, якая ўводзіць нацыянальную валюту. Здавалася б, сама справа ўвогуле нескладаная: здаў усе рублі ў Нацыянальны банк Расіі і пускай у ход грыўні. Але гэта даволі жорсткая ўмова, у пераходны перыяд не абысціся і без рублёў. Менавіта нявысветлены пункт аб рэжыме работы з наяўнымі рублямі не дазволіў прыняць дакумент канчаткова. Намечана, што яго павінен зацвердзіць Савет кіраўнікоў дзяржаў у Маскве 6 ліпеня. Як падкрэсліваў Я. Гайдар, усё павінна быць вырашана ў выніку перагавораў з Украінай, а пры адсутнасці згоды «мы прызнаем арбітраж Міжнароднага валютнага фонду». Такім чынам, найбольш важнае пытанне пакуль што не вырашана, але варта яшчэ раз падкрэсліць: дасягнута галоўнае — прынцыповая дамоўленасць не нашкодзіць пры ўвядзенні нацыянальных валют адзін аднаму.

Для Беларусі вялікае значэнне мае і наступнае пытанне: аб раздзеле дзяржаўных неваенных марскіх суднаў былога Саюза (дэлегацыя рэспублікі і ўнесла яго на разгляд). Можна іранізаваць наконт гэтага, як «Комсомольская правда»: маўляў, не маем мора. Між тым, гаворка ідзе аб былой агульнай уласнасці, якая каштуе немалыя грошы. Да таго ж, як зазначыў дзяржаўны саветнік Саўміна рэспублікі па справах Садружнасці У. Заламай, каля 40 краін не маюць выхаду да мора, але маюць свой флот. І справа тут не ў нейкім прэстыжы, а ў тым, што пры перавозцы грузаў каля палавіны кошту іх ідзе на фрахт. Аднак бачыць нам ці не свой флот з магчымай прыпіскай да польскіх портаў — гэта пытанне пакуль што застаецца ў вельмі туманнай перспектыве. Паводле слоў Я. Гайдара, да падзелу флота трэба прыцягнуць не толькі дзяржавы СНД, але і іншыя дзяржавы былога Саюза. Гэта значыць, дзяржавы Балтыкі, якія, відаць, будуць мала схільныя да таго, каб падзяліць тое, што паспелі ўжо «прыватызаваць». Тым не менш, адпаведная камісія створана.

Яшчэ адна прапанова, якая ўнесена з боку Беларусі,—змяненне арганізацыйных структур СНД, стварэнне эканамічнага выканаўчага камітэта. Зразумела, што прымушае ісці на гэты крок: як падкрэслівалася ўжо, адсутнічаюць абавязковасць адносна прымаемых рашэнняў, кантроль за імі. А ў выніку ўся дзейнасць СНД часта носіць фіктыўны характар. На прэс-канферэнцыі Я. Гайдару задалі такое пытанне: якое пагадненне, падпісанае СНД, эфектыўна працуе сёння на грамадства? «Думаю, што найбольш эфектыўна працуе першае пагадненне—аб стварэнні СНД», — быў адказ, які выклікаў смех у зале... Аднак такая ўжо рэальнасць.

Што яшчэ абмяркоўвалася на пасяджэнні?

Ставілася пытанне наконт стварэння міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі ў форме акцыянернага таварыства (пытанне адкладзена: няма адпаведнага статута, разам з тым падкрэслена неабходнасць захавання адзінай інфармацыйнай прасторы), аб супрацоўніцтве ў галіне аховы здароўя (згода), аб структуры і фінансаванні галоўнага камандавання Аб'яднаных войск СНД (зроблена адпаведнае даручэнне), аб павышэнні тарыфу на грузавыя і пасажырскія перавозкі ў міждзяржаўных зносінах (кажуць, прынялі адразу: пасажырскія — у 2 разы, грузавыя — у 5) і г. д.

Аднак падвядзём нейкія вынікі.

На самым пачатку прэс-канферэнцыі, падагульняючы мінскую сустрэчу, Я. Гайдар зазначыў, што СНД пачынае працаваць, набываецца здольнасць хутка прымаць тыя ці іншыя пагадненні.

Добра, калі так, бо як бы мы ні імкнуліся разбегчыся ў сваёй суверэннасці, жыццё ўсё роўна прымусіць супрацоўнічаць нашы эканомікі — падабаецца гэта каму ці не (вядома, супрацоўнічаць з узаемнай выгадай, інакш проста нельга). Мы прайшлі ўжо добрую школу ізаляванасці, няварта яе паўтараць цяпер кожнай рэспубліцы асобна. Увогуле, можна меркаваць нават так: пытанне жыццядзейнасці і нармальнага функцыяніравання СНД — гэта ў першую чаргу пытанне эканамічных узаемаадносін. На жаль, на практыцы пакуль што па-ранейшаму нярэдка дыктуюць палітычныя амбіцыі тых ці іншых лідэраў, а не эканамічная мэтазгоднасць і логіка. І ўвогуле тая, як быццам, агульная задаволенасць вынікамі мінскай сустрэчы, якая была выказана на прэс-канферэнцыі, пры такім становішчы спраў можа хутка развеяцца. Што зрабіць, каб перавесці справу менавіта ў эканамічную плоскасць? Добры штуршок гэтаму дасць прынятае па ініцыятыве беларускай дэлегацыі рашэнне аб стварэнні міждзяржаўнага выканаўчага эканамічнага камітэта. Трэба толькі надзяліць яго сур'ёзнымі паўнамоцтвамі.

Але гэтага, напэўна, будзе мала. Мы неяк па-ранейшаму робім асноўны ўпор на дзяржаўнае, міждзяржаўнае рэгуляванне падобных адносін, што вельмі моцна аддае адміністрацыйнай эканомікай, за дзяльбой неяк упускаем адну з асноўных мэт распачатых некалі пераўтварэнняў — рэфармаванне эканомік. А без гэтага свайго роду ЕЭС на адной шостай частцы зямной сушы, паўнакроўнае і мабільнае ў дзеяннях, пэўна ж, не адбудзецца.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

КАЛОНКА КАМЕНТАТАРА

## Канец ці пачатак беларускіх грошай?

Мінуў месяц, як былі ўведзены ў абарачэнне разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі. Час падвесці першыя вынікі. Насельніцтва сустрэла разліковыя білеты неадназначна, з асцярогай. Адны сталі называць іх «футравымі» грашамі, другія проста звярынцам, ну, а трэція больш прыстойна — беларускімі.

Аднак ці з'яўляюцца разліковыя білеты грашамі і які іх далейшы лёс?

З навуковага пункту гледжання любыя сродкі, якія забяспечваюць таварны абарот, могуць быць грашамі толькі пры ўмове выканання імі трох асноўных функцый: сродку абарачэння, меры вартасці і сродку накаплення. Дзве першыя функцыі разліковыя білеты выконваюць, а вось трэцяй — не. Значыць, гэта не грошы. Пакуль што не грошы, каля грошай. У чым гэта праявілася за месяц? У тым, што трымальнікі разліковых білетаў імкнуцца іх неадкладна атаварыць. І тут не было б нічога дрэннага, каб не адна акалічнасць. Разліковыя білеты ў вызначальнай ступені былі выпушчаны ў абарачэнне з-за адсутнасці грашовай наяўнасці. А што атрымліваецца на практыцы? Спажыўцы купляюць найперш за разліковыя білеты, а расійскія грошы, паколькі яны выконваюць функцыю накаплення, не спяшаюцца траціць, прытрымліваюць. Асігнацыі не вяртаюцца ў банк, і вынік ранейшы — не хапае наяўных грошай, зноў затрымліваецца заработная плата. Дзе ж выйсце? Што трэба зрабіць, каб разліковыя білеты сталі не канцом, а пачаткам грошай? Ёсць некалькі шляхоў пераадолення гэтай супярэчнасці. Найперш трэба забяспечыць свабодную ўнутраную канверсацыю разліковых білетаў на рублі і наадварот. Пры гэтай умове з'явіцца давер да так званых «беларускіх грошай», і іх паступова можна будзе замяніць на грошы сапраўдныя. Увядзенне разліковых білетаў стане пачаткам паўнацэнных грошай—талераў.

Ёсць і другі шлях замацавання і ўздыму аўтарытэту разліковых білетаў у сферы абарачэння. Гэта закандаўчае устанаўленне асартыменту найбольш дэфіцытных тавараў, якія можна купіць толькі за разліковыя білеты. Тады рублі паплывуць не ў куфэркі, а ў касы банка. Будзе аслаблены, калі не пераадолены, дэфіцыт наяўных грошай.

Калі ж пакінуць усё так, як ёсць, разліковыя білеты Нацыянальнага банка Беларусі стануць канцом беларускіх грошай. Трымальнікі тавару будуць усяляк адмахвацца ад іх, што на калгасных рынках і ў камерцыйных структурах ужо назіраецца і зараз. Усё гэта ўскладніць усю структуру грашова-крэдытных адносін, іх супярэчнасці. У далейшым узнікнуць цяжкасці пры ўвядзенні сапраўдных грошай.

**Уладзімір КУЛАЖАНКА,**
**эканамічны аглядальнік «Звязды», прафесар.**





# ШЛЯХ ДА ХРАМА

**Ціха гараць свечкі. Можна бясконца глядзець на іх агеньчыкі, з'яднаныя з нашымі думкамі нябачнай вечнай сувяззю. Дрыготкае святло множыцца ля пазалочаных ікон, да якіх самі па сабе скіроўваюцца нашы думкі.**

**Колькі пакаленняў нашых продкаў з верай і надзеяй глядзелі на гэтыя абразы. Колькі стагоддзяў вакол гэтых абразоў яднаўся наш народ, процістаяў ворагам, бараніў Бацькаўшчыну.**

**Выстаіць і на гэты раз. Сёння адраджэнне Беларусі непарыўна звязана з адраджэннем яе Царквы, і гэта бачна ў любым з новых храмаў, адчыненых у гарадах і вёсках. Адзін з іх, у Жодзіна, уражвае прыгажосцю сваёй драўлянай архітэктуры. Людзі ўсіх узростаў прыходзяць у яго не толькі дзеля набажэнства, але і для ўдзелу ў агульнай дабрачыннасці. Жодзінская царква Святога Архангела Міхаіла дапамагае адзінокім інвалідам, састарэлым, апякае мясцовы дзіцячы дом, вучыць дзяцей у нядзельнай школе.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

СПОРТ

## ДУБЛЬ МІНСКАГА «ДЫНАМА»

**Футбалісты мінскага «Дынама» заваявалі званне чэмпіёнаў Беларусі, набраўшы 25 ачкоў. А напярэдадні яны выйгралі і Кубак рэспублікі.**

**У апошнім, прапушчаным матчы яны з лікам 6:0 перамаглі каманду «Ведрыч» з горада Рэчыца. А іх асноўны саапернік за чэмпіёнскі тытул — магілёўскі «Днепр», які адставаў на адно ачко, дабіўся поспеху ў сустрэчы з футбалістамі БелАЗа — 2:1. У выніку ў яго другое месца — 24 ачкі.**

**Па 19 ачкоў набралі «Дынама» (Брэст) і «Трактар» (Бабруйск). Але ў брастаўчан аказалася лепшая розніца мячоў, што і прынесла ім трэцяе месца.**

**Спрынтэрскі бег чэмпіёна быў прадыктаваны жаданнем трапіць у еўратурніры. Але Федэрацыя футбола Беларусі са спазненнем адправіла ў адрас УЕФА свой афіцыяльны запыт, таму ён і не разглядаўся.**

**Цяпер, пасля месячнага перапынку, каманды зноў выйдуць на поле, каб пачаць чэмпіянат-93. Ён будзе праходзіць па сістэме «восень—вясна».**

**Вячаслаў ДУТАЎ,**
**кар. БЕЛТА.**

*(Больш падрабязна пра першы чэмпіянат РБ па футболу — у адным з бліжэйшых нумароў «Звязды»).*

ТВАЁ СЛОВА, ЧЫТАЧ!

## А цукру ў продажы няма...

**Не вытрымала. Хачу напісаць водгук на артыкул «А ўвесь жа цукар аднолькавы — белы...», які нядаўна змешчаны ў «Звяздзе». Цалкам падтрымліваю. Чаму наогул не зрабіць увесь цукар адной цаной? Хай сабе будзе «свабодная». І адмяніць талоны, па якіх немагчыма набыць цукар па таннай цане. А то атрымліваецца, што таннейшым забяспечваюцца толькі ўсе прадаўцы ды іх знаёмыя, астатнім жа цукру хранічна не хапае, у продажы яго няма. Аднолькавая цана на цукар ліквідавала б злоўжыванні ў гандлі, не было б патрэбы кантраляваць талоны і г. д.**

**Лепш зрабіць нешта іншае таннейшым. Напрыклад, цукеркі.**

**З. НОВІК.**

г. Гомель.

## На калгас спадзявайся, а разлічвай на сябе

Здавалася б, фермер можа многае, але ўся бяда ў тым, што ён не мае магчымасцей. Фёдар і Васіль Трафімавы, Дзмітрый Будовіч, Святаслаў Бурдзікаў, Іван Краўцоў, Рыгор Паўленка — шасцёра з адзінаццаці фермераў раёна, якія ўзялі па 50 і больш гектараў зямлі. Пры сваёй сялянскай кемлівасці і руплівасці яны здолелі б значна папоўніць паліцы прадуктовых магазінаў. Аднак дзе ўзяць гаспадарлівым людзям сельскагаспадарчую тэхніку, перапрацоўчае абсталяванне? На дапамогу калгасаў і саўгасаў разлічваць не прыходзіцца. З-за эканамічнай блакады яны самі становяцца банкрутамі, і гэта яшчэ больш б'е па фермерах, бо побач з моцным суседам, вядома, тым намнога лягчэй было б стаць на ногі.

Так што застаецца разлічваць толькі на сябе, праўдамі і няпраўдамі здабываць самае неабходнае для работы. Сёе-тое прыдбаць удалося. Вось і вырашылі абменьвацца тэхнікай, ніхто ж з фермераў не мае поўнага набору неабходных глебаапрацоўчых, сеяльных і ўборачных машын.

Пры такім стане спраў некаторыя з гэтых вяскоўцаў пачынаюць расчароўвацца, адчуваюць сябе лішнімі на атрыманай зямлі.

Сумна? Так. Але гэта рэаліі нашага нестабільнага часу, таго раздарожжа, на якім апынулася вёска.

**Тамара МАХТАДУЙ.**

Талачынскі раён.

## І я калісьці быў шахцёрам...

**У гэты цяжкі для нашай рэспублікі час нічога мяне так не раздражняе, як слова «забастоўка». І асабліва апошняя, салігорская. Поўнасцю згодзен. Цяжкая, рызыкоўная работа.**

**Між іншым, і я калісьці быў шахцёрам. Па загазаванасці наша шахта № 32 «Пад'ёмная» ў Данецкай вобласці была звышкатэгарыйная. Не было месяца, каб некага не хавалі. І нікому ў той час і ў галаву не прыходзіла баставаць. Заработкі, калі ўсё ладзілася, у сярэднім былі 1.500—2.000 дарэформенных рублёў.**

**А цяпер, ледзь што не так — адразу забастоўка. Ідзіце працаваць у сельскую гаспадарку, калі не задавальняе заработак.**

**Амаль пяць гадоў у Данбасе засталіся ў памяці як залатая эра ў маім жыцці. Сур'ёзна ставячыся да работы, я карыстаўся вялікім аўтарытэтам і меў удосталь вольнага часу.**

**Цяпер жа, трапіўшы ў сельскую гаспадарку, не маю магчымасці нават па тэлевізару «пахварэць» за любімую каманду — мінскае «Дынама». Дык хто ж у нас знаходзіцца ў прывілеяваным становішчы? І ці не гэта стала прычынай, што нашы вёскі заняпалі?..**

**Віталь НАВАК.**

в. Снядзін,
Петрыкаўскі раён.

## «Мяне не палохаюць, стой і маўчы?..»

Колькі разоў міжволі быў сведкам непрыстойных сцэн, лаянак, прыставанняў да жанчын, а то і боек. Калі бывае побач міліцыянер, то, як правіла, лічыць за лепшае не ўмешвацца: ці то едзе дамоў з дзяжурства, ці то па іншай справе. Вы толькі паглядзіце, колькі п'яных раз'язджаюць — нейкія тралейбусныя і аўтобусныя джунглі!

Прапаную прыняць закон, які абараняў бы правы грамадзян — пасажыраў грамадскага транспарту. А канкрэтна: спецыяльныя фарміраванні павінны «прачэсваць» яго салоны. Зразумейце, што вадзіцелі не могуць, ды і не хочуць тут нешта рабіць, многія з іх нават забыліся пра свае абавязкі кантралёраў. І вось п'яны хам крычыць на ўвесь аўтобус, а 30—40 чалавек цярпліва чакаюць, калі ён выйдзе або калі будзе іх прыпынак.

Абавязкова надрукуйце маё пісьмо, бо гэта актуальна: усе усё бачаць і ўсе маўчаць. І я таксама напісаў вам і далей буду маўчаць: так робяць усе. Але трэба дапамагчы людзям. Мала таго, што яны выстойваюць гадзінамі ў чэргах, дык яшчэ і не абаронены ад грубасці і здзекаў. Проста абуральна, што так здзекуюцца з людзей, якія і без таго ў многім абяздолены.

**Генадзь МІХАЙЛАЎ.**

г. Бабруйск.

## А закусь з душком!

**Ці можна прадаваць сапсаваны прадукт? «Ды што вы, ні ў якім разе!» — запярэчыць кожны. І мы так думаем.**

**А вось у нашу вёску Бор нядаўна прывезлі гнілую «камсу». Прадаўшчыца, каб сплавіць яе, паехала на базу і ўзяла віна па 52 рублі за бутэльку. Затым частку яго прадала па спісу, а астатняе рэалізоўвала з нагрузкай. На адну пляшку прыплюсоўвала 8 рублёў закусі з душком.**

**Вось мы і пытаемся, ці можна так рабіць — прадаваць непрыгодны, сапсаваны прадукт, атручваць людзей ды яшчэ вымагаць грошы? Звяртаемся да вас, дарагая рэдакцыя, бо ў сельпо праўды не знойдзеш. Ім бы хутчэй збыць залежалы тавар.**

Жыхары в. Бор
Капыльскага раёна.

## Ні сабе, ні людзям!

Мяне хвалюе шэраг пабочных, другарадных пытанняў у справе павышэння цэн... Ужо ўсім цяпер вядома, што кошт пустой бутэлькі 0,5 л узрос да 5 рублёў. І хоць зараз 5 рублёў нічога не вартыя, аднак кідаць пустую тару, дзе папала, сталі значна менш. Адпаведна павінна была б зменшыцца і колькасць бітага шкла на вуліцах. Але не, як былі каля асобных прыёмных пунктаў кучы бітага шкла, так і засталіся. Няўжо з бракаваных бутэлек ужо нічога нельга зрабіць на шкляных заводах? Упэўнены, што можна. Было б жаданне ў адказных асоб. А так атрымліваецца, што ні сабе, ні людзям!

**Алег БРАНКОЎСКІ,**
**рабочы «Гомсельмаша».**

## Вы прасілі дапамогі

**У складаным становішчы апынулася сям'я М. Даніліка з в. Лыскава Пружанскага раёна: шэсць чалавек жывуць у маленькім пакойчыку, няма дзе трымаць жыўнасць. А ў калгасе «Радзіма», замест таго каб палепшыць чалавеку жыллёвыя ўмовы, неабгрунтавана перанеслі яго чаргу на атрыманне кватэры.**

**Намеснік старшыні Пружанскага райвыканкома С. КРАЦ паведаміў рэдакцыі:**

— На сумесным пасяджэнні праўлення і прафкома калгаса «Радзіма» прадстаўніком раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання было пастаўлена пытанне аб адмене незаконнага рашэння ад 16.06.1991 года аб перанясенні чаргі М. Даніліку і яе аднаўленні.

Адначасова рэкамендавалася вырашыць пытанне аб прадастаўленні гэтай сям'і з улікам яе пажаданняў купленага калгасам дома, які цяпер часова займаюць будаўнікі.

Пры паўторнай праверцы ўстаноўлена, што вышэйуказанае рашэнне адменена. Запіс аб гэтым значыцца ў кнізе пратаколаў пасяджэння праўлення гаспадаркі. А як заявіў старшыня калгаса П. Ліш, пытанне аб прадастаўленні сям'і Данілікаў жылога памяшкання будзе разгледжана ў бліжэйшы час.



**Алена ФЛЯГІНА заканчвае вучобу ў Мінскім ПТВ № 94 машынабудавання і будзе працаваць чарцёжніцай.**

**Усяго ж вучылішча ў гэтым годзе выпусціць 425 кваліфікаваных рабочых па 12 спецыяльнасцях. Пытанне толькі ў тым, ці ўсім знойдзецца дзе прыкласці свае сілы і веды.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА (БЕЛТА).**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

# Не ўсе разумеюць,

### ЧАГО ХОЧА ГУМАНІТАРНАЯ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ? А ЯНА ХОЧА ПРАЦАВАЦЬ

Узяцца за пяро прымусілі дзве аб'явы ў газеце. У першай патрабаваліся пашыўшчыкі, загатоўшчыцы абутку, у другой — гуманітарыі: прафесары, дацэнты. Рабочых спакушалі зарплатай у некалькі тысяч рублёў. Аб заробках навукоўцаў не гаварылася...

Абутковых прафесій, на жаль, я не спасціг, а вось другая аб'ява мяне зацікавіла. Балазе, скончыў універсітэт, абараніў кандыдацкую, затым доктарскую дысертацыі, некалькі кніг выдаў. Адным словам, вырашыў пацікавіцца, пайшоў у той інстытут. Асаблівай надзеяй сябе не цешыў, бо ведаў, што ў аб'яве сказана адно, а на самай справе... У іх магла быць і свая кандыдатура, якую калектыў меркаваў падтрымаць. А аб'ява — дзеля формы. Бо «паложана».

Менавіта так яно і было. Апрача таго, у інстытуце прыспела скарачэнне. З 27 выкладчыкаў 17 трэба адправіць...

Цікаўлюся ў калег, што яшчэ новага?

Адказваюць: самая галоўная навіна — яшчэ мінулагодняя. У краіне быў свой жнівеньскі путч, у адукацыі Беларусі — свой. 26 жніўня 1991 года Міністэрства народнай адукацыі выдала дырэктыву на згортванне гуманітарнай падрыхтоўкі для студэнтаў тэхнічных навучальных устаноў. Саюзны путч разбурыў СССР, наш мясцовы ламае інтэлектуальны, духоўны бок адукацыі, узбагачэнне моладзі ўсімі тымі агульначалавечымі каштоўнасцямі, якімі ў рэшце рэшт толькі і багаты чалавек.

Перабудова, я так разумею, скончылася. І ўсё-такі «палоннiку Фароса» сёе-тое ўдалося зрабіць. Разам са сваімі паплечнікамі ён зваліў з п'едэстала замарочаную дагматызмам гістарычную навуку. Гісторыкі, да іх гонару, першымі сталі відушчымі. Яны ўключыліся ў перагляд стрыножаных былымі кіруючымі структурамі праграм, перапрацавалі свае лекцыі, больш уважліва пачалі ставіцца да студэнтаў. Гэта было як рэвалюцыя — асэнсаванне супярэчнасцей мінуўшчыны і сучаснасці, адраджэнне духоўнасці і годнасці.

Усведамляючы сваю адказнасць перад грамадствам, навукоўцы-гуманітарыі адкінулі ганебныя шоры, пачалі шукаць новыя падыходы да выкладання гісторыі, філасофіі, эканомікі, сацыялогіі. Можа ўпершыню яны зразумелі сваё вялікае прызначэнне — захоўваць і ўзбагачаць культуру, перш за ўсё — праз сэрцы моладзі, якой пасля заканчэння вышэйшай установы давядзецца мець справу не толькі з сучаснай складанай тэхнікай, але і з не менш складанымі вытворчымі сіламі — працоўным людам.

Цяжкасцей на гэтым шляху сустрэлася нямала. Сацыёлагі, напрыклад, адзначаюць, што толькі 14 працэнтаў студэнтаў праяўляюць цікавасць да айчыннай гісторыі; трэцяя частка абыякава ставіцца да гісторыі Беларусі; толькі 43 працэнты лічаць, што літаратура і мастацтва, гісторыя і філасофія, сацыялогія і псіхалогія спатрэбяцца ім у будучым жыцці і працы. Усяго 43, менш палавіны!

Такое цынічнае стаўленне да духоўных набыткаў чалавецтва ўражвае, раскрывае прычыны нашага адставання амаль ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці, вульгарызацыі самых светлых ідэалаў, адрачэння нацыянальных каранёў.

Шукаць вінаватых? Гуманітарыі палічылі сябе вышэй гэтага, бо не толькі баяліся «выплюхнуць з вадой і дзіця», але і ачарніць тое добрае, што ўсё ж было у нашай гісторыі. Сапраўды, нельга быць аб'ектыўным, згаджаючыся з тымі, хто лічыць, што пры савецкай уладзе беларуская нацыя ішла да заняпаду, што буцвелі навука, культура, мастацтва. Так спрашчаць недаравальна нават на мітынгах, не гаворачы ўжо пра студэнцкую аўдыторыю. Як і належыць навукоўцам і аналітыкам, гуманітарыі адстаялі іншы, удумлівы падыход да мінулага. І гэта зразумела, бо нейкай адной фарбай яго не намалюеш. Трэба адкінуць тое, ад чаго і сёння баліць сэрца.

На жаль, не ўсе зразумелі гэтыя накірункі нашай гуманітарнай інтэлігенцыі, і найперш той яе часткі, што працуе ў тэхнічных навучальных установах. А на новы манер палітызаванае кіраўніцтва Міністэрства народнай адукацыі, відаць, паддаўшыся эйфарыі незадаволенасці станам грамадскіх навук, не знайшло іншага шляху, як пагадзіцца з прапановамі рэктараў інжынерна-тэхнічных, медыцынскіх, сельскагаспадарчых навучальных устаноў аб расшырэнні выкладання профільных прадметаў за кошт гуманітарных кафедраў. Праўда, сустрэўшыся з рашучым пратэстам інтэлектуальнай грамадскасці, міністэрства забіла адбой, разаслаўшы навучальным установам тлумачэнні, якімі рэкамендавала ўсё ж адводзіць пад тыя самыя «мулкія» дысцыпліны чвэрць вучэбнага часу. Але рэкамендацыі ёсць рэкамендацыі. Ва ўмовах дэмакратызацыі навучальнага працэсу рэктары адчулі сябе «на кані». У Беларускай політэхнічнай акадэміі філосафы, напрыклад, павінны ўкласціся ў 72 гадзіны замест 90 ранейшых.

Амаль такія ж праблемы ў БДУ, дзе згуртаваліся адданыя сваёй справе кадры: працуюць 150 дактароў і прафесараў, 1.250 кандыдатаў навук і дацэнтаў. Толькі ў мінулым годзе звыш 100 выкладчыкаў абаранілі доктарскія і кандыдацкія дысертацыі. Усё гэта сведчыць аб высокім інтэлектуальным, прафесійным узроўні корпуса навукоўцаў-гуманітарыяў.

Без скарачэнняў, пераўладкаванняў тут таксама не абышлося. Адным прапанавалі выйсці на пенсію, іншых працаўладкавалі (за што шчыры дзякуй), трэцім, і гэта яшчэ лепш, проста параілі павысіць узровень выкладання.

Але перакосы сведчаць, што нацыі, яе духоўнасці і культуры, адраджэнцкай ідэі пагражае сур'ёзная небяспека. Калі адштурхнуць навукоўцаў-гуманітарыяў, распыліць гэты і без таго даволі тонкі слой інтэлектуальнай інтэлігенцыі — нічога ў нас не атрымаецца, акрамя чарговай хлусні, яшчэ больш вытанчанай дэмагогіі і новага гістарычнага праклёну.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ,**
**галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мінуўшчына», доктар гістарычных навук.**




## «Замарожаны» ўзаемаразлік?

**Многія чытачы газеты ў апошні час цікавяцца парадкам правядзення ўзаемаразлікаў грашовых сродкаў, здзіўляюцца немагчымасці іх выкарыстання на бягучыя патрэбы прадпрыемстваў, пазіцыі тых, хто забраніраваў гэтыя сродкі. За тлумачэннямі рэдакцыя газеты звярнулася да начальніка эканамічнага ўпраўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Я. ХАРКАВЕЦ.**

— У першую чаргу трэба мець на ўвазе, што ў нас праводзіўся ўнутрырэспубліканскі ўзаемаразлік грашовых сродкаў,— сказала Яўгенія Яфімаўна. — І нельга лічыць, што гэтыя грошы забраніраваны. Кожнаму прадпрыемству, з аднаго боку, аплачваюцца плацежныя дакументы, з другога— залічваюцца сродкі таму, каму яно было вінавата. У гэтым напрамку праводзіцца значная работа, бо картатэка на пачатак чэрвеня склала 165 мільярдаў рублёў.

Спачатку планавалася ліквідаваць запазычанасць на працягу 2—4 чэрвеня, але пазней Нацыянальны банк пайшоў насустрач арганізацыям і банкам і павялічыў гэты тэрмін да 10 чэрвеня. Бо аплата — адна справа, а мы павінны быць упэўнены, што ўсе грошы па ўзаемаразліках паступілі ў банкі, якія іх павінны атрымаць. 15 чэрвеня такія сродкі былі залічаны на рахункі толькі напалавіну, 23 чэрвеня не было атрымана яшчэ 20 мільёнаў рублёў. Спадзяёмся, што да канца месяца і яны, так сказаць, знойдуць сваіх гаспадароў. Таму грошы, якія залічаны на спецыяльны 725-ы рахунак, часова не дазвалялі выкарыстоўваць. Выключэнне — на выдачу заработнай платы і пагашэнне крэдыту, атрыманага ў любым з банкаў рэспублікі.

На жаль, некаторыя нашы калегі з камерцыйных структур адмаўляліся разбраніраваць 725-ы рахунак, у прыватнасці, на аплату пазык іншым банкам. У такіх выпадках мы папраўлялі іх. Аналагічнае растлумачэнне дадзена ў тэлеграме камерцыйным банкам, якую мы адправілі 24 чэрвеня. У ёй падкрэсліваецца, што крэдытнае сальда па ўзаемаразліку неабходна накіроўваць найперш на пагашэнне пратэрмінаванай, адтэрмінаванай запазычанасці па ўсіх відах пазык, тэрміновых крэдытаў, выдадзеных на выплату зарплаты, для разліку па плацяжах у бюджэт, іншыя мэты, уключаючы сродкі, атрыманыя ў банках, якія не ажыццяўляюць разліковага абслугоўвання прадпрыемстваў. Усе камерцыйныя банкі абавязаны выконваць нашы ўказанні.

Апошнім днём залічэння сродкаў па рэспубліканскаму ўзаемаразліку з'яўляецца 30 чэрвеня. На наш погляд, праведзеная фінансавая аперацыя дапамагла ў значнай ступені папярэдзіць плацежны крызіс у рэспубліцы.

**Падрыхтаваў**
**Мікалай БАЖКО.**

● КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

## Апцыёны і ф'ючэрсы

**Рубрыку вядзе Аляксандр БУРДА, брокер фірмы «Аліна»**

У папярэдніх матэрыялах рубрыкі мы разгледзелі асноўныя віды каштоўных папер, выпушчаных у нашай рэспубліцы, — акцыі, аблігацыі, дэпазітныя сертыфікаты. Але фондавы рынак гэтым не вычэрпваецца. Існуе шэраг дапаможных, вытворных ад каштоўных папер—гэта перш за ўсё апцыёны і ф'ючэрсы.

Што такое апцыён і навошта ён патрэбен? Апцыён — гэта каштоўная папера, адпаведна якой пакупнік мае права купіць або прадавец мае права прадаць пэўную акцыю па цвёрдай цане на працягу ўстаноўленага тэрміну. Апцыёны, як і акцыі, свабодна прадаюцца і купляюцца, прычым іх цана залежыць ад курсу адпаведных акцый: калі чакаецца павышэнне курсу акцый, то даражае і апцыён; калі курс акцый пачынае падаць — апцыён таксама становіцца таннейшым.

Разгледзім самы распаўсюджаны від апцыёна — «на пакупку»; такія апцыёны рэгулярна прапануюцца на Беларускай фондавай біржы.

Уявім такую сітуацыю. Дапусцім, вы хочаце набыць акцыю курсавой вартасцю 5.000 рублёў. Такіх грошай у вас няма, але вы разлічваеце накапіць іх, скажам, за 3 месяцы. Бяда ў тым, што за гэты тэрмін курс можа ўзрасці, напрыклад, да 8.000 рублёў. Што ж рабіць? Ёсць выйсце: купіць апцыён на тэрмін 3 месяцы вартасцю, дапусцім, 200 рублёў. Гэта значыць, што за гэтыя 200 рублёў вы атрымліваеце права купіць указаную акцыю на працягу трох месяцаў па цане 5.000 рублёў—не больш і не менш, незалежна ад змянення курсу. Так што акцыя абыдзецца вам у 5.000 рублёў плюс 200 рублёў за апцыён— усяго 5.200 рублёў, нават калі на біржы праз 3 месяцы яна дасягне 8.000 рублёў.

Як бачым, апцыён выгадна купляць, калі намячаецца рост курсавога кошту акцыі: у нашым прыкладзе, патраціўшы 5.200 рублёў на акцыю, вы зможаце тут жа прадаць яе за 8.000 рублёў і атрымаць прыбытак у 2.800 рублёў. Гэта адзін з прыкладаў біржавай гульні на розніцы курсаў. Але ў такой жа гульні можна прайграць, калі курс не ўзрасце, а ўпадзе. І ў гэтым выпадку вам «дапаможа» апцыён.

Разам з апцыёнамі значнае месца сярод каштоўных папер займаюць ф'ючэрсныя кантракты (ф'ючэрсы). Ф'ючэрс (ад англійскага «future»— будучае) — гэта кантракт на пастаўку, які адрозніваецца ад апцыёна строгай стандартызаванасцю і, галоўнае, абавязковасцю для абодвух бакоў: ад яго нельга адмовіцца, не заплаціўшы значную няўстойку. Форму ф'ючэрсных кантрактаў распрацоўвае сама біржа, і ў ёй указваюцца тэрмін здзяйснення здзелкі (ад аднаго да шасці месяцаў), гарантыі прадаўца і пакупніка (ва ўстаноўленых працэнтах ад сумы здзелкі), від і колькасць каштоўных папер, якія з'яўляюцца аб'ектам ф'ючэрснага кантракту, і, канешне, іх цана.

Ф'ючэрсныя кантракты надзвычай актыўна выкарыстоўваюцца на таварных і фондавых біржах для мэт спекуляцыі і біржавага страхавання (хеджыравання). Хеджыраванне дазваляе пазбавіцца ад рызыкі змянення цаны тавару або каштоўнай паперы: пры пакупцы акцыі з пастаўкай праз пэўны тэрмін прадаецца ф'ючэрс на гэту акцыю, а пасля заканчэння тэрміну ф'ючэрс выкупляецца. Паколькі цана ф'ючэрсаў і акцый вагаецца прыкладна аднолькава, то прыбытак ад ф'ючэрсных аперацый кампенсуе страты па акцыі і наадварот — так што любыя змяненні курсу не страшныя. Зрэшты, гэта ўжо вышэйшая матэматыка біржы, да вывучэння якой мы пакуль што толькі рыхтуемся.

**Дадатковыя тлумачэнні можна атрымаць па тэлефоне брокерскай фірмы «Аліна» — 64-16-30.**

● НЕПРЫЧАСАНЫЯ МАНАЛОГІ

## Здароўе каштуе грошай. Хто будзе плаціць?

**Фізічная культура сярод насельніцтва павінна развівацца, апрача ўсяго іншага, і на камерцыйнай аснове. Пры гэтым нельга забывацца на сацыяльную справядлівасць,—лічыць майстар спорту міжнароднага класа, а цяпер — кіраўнік аднаго з мінскіх фізкультурна-спартыўных кааператываў.**

Агаваруся адразу: я не спецыяліст па класіфікацыі чыноўнікаў, нават калі гэта знаёмая ўсім нам разнавіднасць «бюракратызмус - савецікус». Таму не буду займацца аналізам іх тактыкі і стратэгіі, калі яны вядуць барацьбу за сваё выжыванне, заводзяць нас ва ўсемагчымыя тупікі, а проста выкладу некаторыя факты.

Па свайму спартыўнаму амплуа я — кідальніца дыску. Адносіны ж чыноўнікаў - «прафесіяналаў» да гэтага віду былі вядомыя: ага, лёгкая атлетыка — дык і займайцеся на двары. Усё гэта даўно надакучыла, і дзевяць гадоў таму назад, калі я ўжо трэніравала ў ДЮСШ, знайшла ў адной з мінскіх школ вялікі занядбаны падвал.

Тады дазвол на арэнду памяшкання далі даволі лёгка. Яшчэ б! Па дваццаць гадзін у суткі я (жанчына, зразумела, не слабая) месяц за месяцам капала там зямлю, працавалі і мае вучні. Чыноўнікі ж з райана паціху пацiралі рукі: як жа, без усякіх затрат і аплаты, толькі за кошт «энтузіязму простых савецкіх людзей» можна запісаць на свой рахунак выдатную спартыўную залу. І адрапартаваць. Такая сапраўдная цана тагачасным шырокавяшчальным заявам, быццам у нас ўсё робіцца для развіцця масавага спорту і фізічнай культуры.

Так ці інакш, але тады ў райана былі мной задаволены. Сёння ж, калі памяшканне арандуе ўжо наш кааператыў «Дасканаласць», сітуацыя змянілася: цяпер я — персона нон грата, варожая для іх асоба. Цяпер я, згодна абвінавачванняў ахоўнікаў «сацыялістычнай маралі», гандлярка, якая нажываецца на людскіх хваробах.

Давайце ж паглядзім, хто і як «нажываецца».

Наведвальнікі ў нас займаюцца агульнафізічнымі комплексамі, атрымліваюць умацоўваючыя працэдуры. Вядома ж, у сістэме рынкачных адносін, калі хочаш паправіць здароўе, «падкарэкціраваць» сваю фігуру (а ў гэты бок дзяржава практычна ніколі не глядзела), дык трэба нешта і заплаціць. Сума складваецца з накладных расходаў плюс арэнда памяшкання, плюс зарплата работнікаў кааператыву. Такім чынам, за адны заняткі пацыент павінен заплаціць 20 рублёў. Што ж зробіш, калі сёння ўсе паслугі каштуюць больш-менш дорага?

А вось другі расклад. Практычна за такія ж паслугі ў мінскім Палацы спорту бяруць з наведвальнікаў прыкладна... 90 рублёў! Вось вам і «дзяржаўныя» расцэнкі, невядома толькі, хто і за што іх назначае. Зрэшты, калі пачаўся ўжо эканамічны развал, сталі не патрэбныя палітычная паказуха і ідэалагічныя заклінанні аб перавагах «сацыялістычнага ладу жыцця», былым клапатліўцам пра здароўе народа можна і скінуць маскі, уладарна-манапольнай рукой аблегчыць кішэні людзей.

Усё гэта я зразумела не сёння, і тым не менш такія адкрыцці былі для мяне яшчэ толькі кветачкамі...

...Успамінаецца мінулагодні лёгкаатлетычны фестываль у фінскім горадзе Турку — своеасаблівы чэмпіянат свету сярод ветэранаў спорту, на якім мне пашчасціла ўстанавіць сусветны рэкорд. Было і такое, пра што ўспамінаць проста не хочацца. На чэмпіянат ехала ледзь ці не «зайцам», бо не хапала сродкаў, везлі з сабой пасцельную бялізну. Два тыдні начавалі ў школе, спалі на скураных матах—ці не каменны гэта век? Вакол—бананы, ананасы, а мы сёрбаем са слоікаў вадкі супчык з канцэнтратаў. Добра, што прама каля стадыёна натрапіла паляну суніц, гэтыя ягады, лічу, і паспрыялі майму рэкорднаму кідку.

Маралізаваць доўга не буду, проста скажу, што ў тыя дні неяк адразу асэнсавала, наколькі мы далёкія ад нармальнага цывілізаванага жыцця, у якім жабрацкім стане знаходзіцца наш ветэранскі спорт і масавая аздараўленчая фізкультура наогул. Калі я разам са сваімі паплечнікамі стварала «Дасканаласць», гэта і была спроба вырвацца з прыгнятаючага жабрацтва і ўсеагульнай галечы. Бяда толькі, што і наш кааператыў пакуль не вельмі багаты.

У кагосьці ўзнікнуць пытанні з падвохам, таму адкажу адразу: мы не можам пакуль устанавіць сабе звышвысокія заробткі, таму што ўлічваем сённяшні матэрыяльны стан нашых людзей. Зарад здароўя і бадзёрасці, які яны атрымліваюць у нас, павінен усё ж такі быць ім па кішэні. І яшчэ: у нашым відзе дзейнасці прынцып рабіць імгненны бізнес, любой цаной — ніяк не падыходзіць. Цана тут куды больш высокая—здароўе.

Таму, між іншым, і адмовіліся ад пэўных прапаноў некаторых айчынных «навічкоў-мільянераў»: маўляў, на вашых плошчах хуценька можна стаць сапраўдным багацеем. Не ўзялі мы ад іх і грошай, бо трапілі б тады ў сапраўдную фінансавую кабалу — цяперашняя дзікая інфляцыя гэтаму абавязкова паспрыяла б.

А сродкі кааператыву ох як патрэбны! Мы, зразумела, не напалеоны, але планы ў нас немалыя. Рашэннем гарвыканкома кааператыву адведзены ўчастак памерам два гектары, на якім будзе ўзведзены новы фізкультурны цэнтр. Плануем там мець дзве спартыўныя залы, відэатэку, водны каскад, кегельбан і што-нішто іншае. Будуць у нас займацца і інваліды, для якіх створым пэўныя льготныя ўмовы, — за кошт тых «нябедных», у каго знойдуцца грошы на кегельбанныя забавы.

Каб гэта не засталося манілаўскай марай, трэба лічыць. Падлікі ж паказваюць, што яшчэ летась будаўніцтва каштавала б 4 мільёны рублёў, а сёння яно пацягне ўжо на 60—70 мільёнаў. Грэх было б і разлічваць здабыць такія сродкі шляхам павышэння кошту кааператыўных паслуг. Прынцыпы бізнесу падказваюць іншае: мы пайшлі на заключэнне дагавора з беларускай кампаніяй «Пратон» — «Захад» — першапачатковая эканамічная падтрымка ўжо ёсць. Пагаворым і з заходнімі бізнесменамі: упэўнена, што ўзаемапрымальныя падыходы знойдуцца.

Толькі вось што мяне бянтэжыць: няўжо клопат аб фізічным развіцці нашых людзей — гэта сёння клопат толькі дамарослых бізнесменаў і прадпрымальнікаў? А што наконт гэтага думаюць вышэйшыя дзяржаўныя структуры? Чаму б, скажам, ураду не адмяніць з фізкультурна - аздараўленчых устаноў і кааператываў спагнанне пэўных відаў падаткаў, бо іх дзейнасць — самага што ні на ёсць сацыяльнага плана? Чаму б прадпрыемствам, якія пажадалі б заключыць з намі дагаворы на аздараўленне іх работнікаў, тыя сумы, што яны адпусцяць на гэту справу, не ўлічваць пры падаткаабкладанні ў бок змяншэння. Такія падыходы маглі б знайсці сваё адлюстраванне ў адпаведнай агульнадзяржаўнай праграме, ды пра яе нешта не чуваць...

Ці ўзаб'ёмся мы калі-небудзь на такое разуменне праблемы? Ці ўспомнім забытае сярод нашых псеўдарынкачных нягод, а іменна: у здаровым целе — здаровы дух? Так, здаровых людзей, аптымістаў, нашаму хвораму грамадству сёння вельмі не хапае. Дык пачнём выхоўваць іх. А для гэтага фізічную культуру для народа трэба вывесці з падвалаў — вось аб чым я мару...

**Людміла ХМЯЛЕЎСКАЯ,**
**кіраўнік кааператыва «Дасканаласць».**

## Слоўнік бізнесмена

**АБСАЛЮТНЫ ПРЫБЫТАК.** Прыбытак, роўны даходу, які прадавец атрымаў ад усіх тавараў пасля вылічэння расходаў.

**АЖЫЯТАЖ.** Спекуляцыйныя аперацыі на біржы, рынку, якія заключаюцца ў штучным павышэнні цэн на каштоўныя паперы ці тавары.

**АКЦЫЗ.** Від ускоснага падатку на тавары шырокага ўжытку.

**ВЕНЧУРНЫЯ АПЕРАЦЫІ.** Аперацыі, якія праводзяцца ў асноўным інвестыцыйнымі банкамі і звязаны з крэдытаваннем і фінансаваннем навукова-тэхнічных распрацовак і вынаходстваў. Яны характарызуюцца павышанай ступенню рызыкі.

**ДЫЛЕР.** Асоба (фірма), якая ажыццяўляе біржавае ці гандлёвае пасрэдніцтва за свой кошт і ад свайго імя. Мае месца на біржы, робіць каціроўку любых папер. Даходы дылера — ад розніцы паміж пакупной і прадажнай цаной валют і каштоўных папер, а таксама прыбытак ад змянення іх курсаў.

**ЛІЗІНГ.** Доўгатэрміновая арэнда абсталявання, машын, збудаванняў вытворчага прызначэння. Лізінг забяспечвае магчымасць прамысловым кампаніям атрымаць неабходнае абсталяванне без значных аднаразовых затрат грашовых сродкаў, непазбежных пры звычайнай куплі.

**ПАСРЭДНІК.** Асоба, фірма ці арганізацыя, якія садзейнічаюць зносінам вытворцаў і спажыўцоў тавараў, а таксама абарачэнню апошніх. У юрыспрудэнцыі да пасрэднікаў часта адносяцца толькі тыя асобы ці фірмы, якія садзейнічаюць прадаўцам і пакупнікам у заключэнні і выкананні кантрактаў.

# РОЗГАЛАС

## ЦЫНКАВЫЯ «ПЕЎНІКІ»

**ГРОДНА (Б. ПРАКОПЧЫК). Для кожнага дзіцяці цацка — гэта радасць. Але існуюць, аказваецца, такія цацкі, гульня з якімі можа адгукнуцца... бядой. Да такога вываду прыйшлі супрацоўнікі Гродзенскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі пасля даследаванняў шэрагу вырабаў з пяшчотнымі назвамі «Пеўнік», «Курачка», «Кураня», «Мішка-свістулька» (завод «Гумавыя цацкі», г. Капычынцы, Украіна), а таксама «Вавёрачка» і «Мядзведзь Умка» (Гомельская фабрыка цацак).**

**Неверагодна, але факт: утрыманне свінцу ў гэтых вырабах перавышала норму ў 1,1-2 разы, кадмію — у 1,2-4, цынку — у 2,2-3,5 раза.**

**Продаж гэтых «цацак» органы санітарнага кантролю забаранілі. Але ўсё праверыць проста немагчыма, улічваючы, што практычна бескантрольнымі з'яўляюцца вытворчасць і рэалізацыя цацак кааператывамі, малымі прадпрыемствамі. Пляваць некаторым з іх на экалагічную чысціню сыравіны. Што ёсць (асабліва калі матэрыялы параўнальна танныя) — тое і добра.**

**Што ж рабіць у такой сітуацыі пакупніку? Запатрабаваць сертыфікат якасці таго ці іншага вырабу? Наўрад ці што атрымаецца. Не купляць цацак увогуле? Але гэта ўсё роўна, што пазбавіць сына ці дачку дзяцінства. Зрэшты, вытворцы цынкавых «пеўнікаў» наўрад ці дораць свае вырабы ўласным дзецям.**

## Газеты цяпер не толькі закрываюцца

ЛІДА. У другім па велічыні горадзе Гродзеншчыны з'явілася новае выданне — незалежная грамадска-палітычная газета «Народная трыбуна». Кірунак дзейнасці газеты вызначаны ў радках Максіма Багдановіча, якія і з'явіліся яе пуцяводнай зоркай: «Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць!» Ну што ж, паглядзім, ці ўнясе штосьці новае ў перанасычаны газетны рынак чарговае «незалежнае» выданне.

## КПБ папярэджвае: магчыма акупацыя?

МІНСК. У суботу ў памяшканні Палаца культуры тонкасуконнага камбіната пачаў работу адкрыты з'езд Канфедэрацыі працы Беларусі. Як паведаміў нам старшыня выканкома КПБ Міхаіл Собаль, на парадку дня з'езда — праграма палітычных дзеянняў незалежнага прафсаюза на бліжэйшыя паўгода: або адмаўленне ад маёмасных прэтэнзій на дзяржаўную ўласнасць, або самароспуск прафсаюза з-за немагчымасці такія прэтэнзіі рэалізаваць, або «прымяненне акупацыйных метадаў для рэалізацыі законных правоў явачным парадкам». Апошні тэрмін Міхаіл Міхайлавіч паабяцаў расшыфраваць на самім з'ездзе.

## Такія бываюць «абаронцы»

**26 чэрвеня ў вёсцы Палявая Талачынскага раёна ў доме пенсіянеркі С.** адбыўся пажар. Полымя знішчыла дом і ўсе прыбудовы. Апаратыўная група, якая выехала на месца здарэння, не знайшла ні гаспадыні, ні яе сына — інваліда 2 групы. На працягу двух дзён вялася пошукавая работа і нарэшце падазраваемыя былі знойдзены...

Ваеннаслужачы адной з воінскіх часцей, сам жыхар Віцебска, самавольна пакінуўшы месца службы, хацеў выехаць за межы рэспублікі. Для гэтага патрэбны былі грошы. Натрапіўшы на дом старой жанчыны, «абаронца» радзімы малатком забіў гаспадыню і яе сына. Труп жанчыны спаліў у печы, а попел у малочнай фляжцы вывез за вёску. Вяртаючыся назад, сустрэў мясцовага жыхара Г., які ўцёк з камендатуры. Удваіх утапілі ў балоце труп другога забітага.

Абодва злачынцы затрыманы.

**Яшчэ адна трагедыя адбылася ў вёсцы Груск Пружанскага раёна.** Калгаснік калгаса «Радзіма» Ж., добра падпіўшы, падпаліў свой хлеў, а калі суседзі прыбеглі і паспрабавалі тушыць агонь, схапіў касу і стаў размахваць ёю, нікога не падпускаючы. І тут здарылася тое, што адбывалася яшчэ ў каменным веку: людзі палкамі забілі падпальшчыка.

## Вось і аборт стаў платны

З 15 чэрвеня ў Баранавічах на базе раддома яго супрацоўнікі пачалі практыкаваць платныя аборты.

Цяпер няўдачлівым «маці» не трэба будзе шукаць бабулю-«знахарку» ці падпольна выходзіць на нейкага лекара. Праўда, за аказваемыя паслугі прыйдзецца плаціць. Дарэчы, «расцэнкі», здаецца, не вельмі высокія:

— аборт па сацыяльных паказчыках (калі «муж» невядомы, напрыклад) — 1.500 рублёў;

— ананімны аборт — 320 рублёў;

— асобныя гінекалагічныя аперацыі — ад 2.500 да 3.300 рублёў.

Работнікі раддома вырашылі, што 55 працэнтаў ад агульнага прыбытку будуць ісці на аплату спецыялістам, а астатнія грошы — на ўдасканальванне медыцынскага абсталявання.

## У пасажыраў — маленькая радасць

ГОМЕЛЬ. Каля месяца таму назад мы расказвалі аб тым, як моцна ўдарыла па людзях павышэнне цэн на праезд у прыгарадных аўтобусах. Страты ад гэтага маюць і аўтастанцыі. І вось маленькая радасць: аблвыканком прыняў рашэнне аб выдзяленні датацыі аўтобуснікам у суме звыш 70 мільёнаў рублёў. У выніку на тры месяцы (на ўвесь дачны сезон) цэны на білеты на маршруты працягласцю да 50 кіламетраў з першага ліпеня будуць зніжаны ў 2 разы.

У прынятай пастанове намечаны меры і аб упарадкаванні работы прыгараднага чыгуначнага транспарту, для чаго мяркуецца дадаткова набыць вагоны і дызелі. Пасажыры цяпер кажуць: так бы і далей.

## Куля, вядома ж, дурніца...

Літаральна днямі Баранавіцкая пракуратура закончыла следства па справе аб адным няшчасным выпадку.

У канцы красавіка ў горадзе супрацоўнікамі ДАІ праводзілася аперацыя па «адлову» п'яных вадзіцеляў.

І калі адна з легкавых машын не спынілася на патрабаванне міліцыянера, той прымяніў зброю. Але куля — дурніца. Яна трапіла ў пасажыра, мясцовага жыхара А. Галабурду, які ад атрыманай раны памёр.

Пасля двух месяцаў «разборак» пракуратура заключыла, што табельная зброя была прыменена па правілах.

## ВАЧАМІ САЦЫЁЛАГА

## 8. АДНОСІНЫ ДА ЗАБАСТОВАК

(Заканчэнне. Пачатак у №№ 119, 120, 122—124, 126, 127)

**Большасць апытаных лічыць забастоўкі дапушчальным сродкам абароны правоў працоўных. Разам з тым мы бачым, што зараз ацэнкі больш узважаныя, чым у 1990 годзе. Многія лічаць дапушчальнымі забастоўкі толькі пры адпаведных умовах: надта гэта двухбокованебяспечная зброя. Значна зменшылася доля гатовых асабіста ўдзельнічаць у забастоўках.**

**Сярод мер выхаду з крызісу на першае месца грамадская думка ставіць навядзенне парадку і дысцыпліны (57,3 працэнта), затым неабходна павышэнне адказнасці. Не на апошнім месцы такія фактары, як падтрымка сельскагаспадарчай вытворчасці, стварэнне спрыяльных умоў для прадпрымальніцтва, паскарэнне прыватызацыі, устанаўленне рэжыму эканоміі і прыняцце антыманапольнага заканадаўства. Паслядоўнасць названых мер невыпадковая: без парадку і адказнасці тая ж прыватызацыя можа прывесці да прама процілеглых вынікаў.**

**1. ЦІ ЛІЧЫЦЕ ВЫ, ШТО ЗАБАСТОЎКІ З'ЯЎЛЯЮЦЦА ДАПУШЧАЛЬНЫМ СРОДКАМ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ПРАЦОЎНЫХ!**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Так | 45,3 | (53,0) |
| 2. Толькі пры пэўных умовах | 29,5 | (20.4) |
| 3. Не, гэта недапушчальна | 23,4 | (25,0) |
| 4. Няма адказу | 1,9 | (1,6) |

**2. А СВОЙ УДЗЕЛ У ІХ ВЫ ДАПУСКАЕЦЕ!**

| | | |
|---|---|---|
| 1. Так | 41,6 | (54,0) |
| 2. Не | 31,7 | (28,4) |
| 3. Цяжка сказаць | 25,3 | (17,1) |
| 4. Няма адказу | 1,4 | (0,5) |

## 9. МЕРЫ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

**1. ЯКІЯ, НА ВАШ ПОГЛЯД, НЕАБХОДНЫ ПЕРШАЧАРГОВЫЯ МЕРЫ ДЛЯ ВЫВАДУ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ З КРЫЗІСУ!**

| | |
|---|---|
| 1. Паскорыць працэс прыватызацыі | 23,7 |
| 2. Навесці парадак і дысцыпліну ва ўсіх сферах жыцця грамадства | 57,3 |
| 3. Стварыць больш спрыяльныя ўмовы для прадпрымальнікаў у сферы вытворчасці | 26,0 |
| 4. Устанавіць рэжым строгай эканоміі матэрыяльна-тэхнічных і валютных сродкаў | 19,6 |
| 5. Прыняць антыманапольнае заканадаўства | 12,3 |
| 6. Рашуча прымяняць меры крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці па фактах карупцыі, крадзяжу, утойвання тавараў, спекуляцыі і інш. | 41,3 |
| 7. Аказваць больш істотную падтрымку сельскагаспадарчым вытворцам | 34,4 |

## КРЫВАЯ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ ІДЗЕ ЎВЕРХ

**ОРША. Рэзкі рост прадпрымальніцкай ініцыятывы адзначаны сёлета ў Оршы. Толькі на адным пасяджэнні выканкома было зарэгістравана 15 кааператываў і 45 чалавек, якія пажадалі распачаць уласную справу. Дарэчы, гэтыя лічбы перакрылі мінулагодні паказчык за цэлы год. Зайздросны ўсплёск актыўнасці!**

## БЯСПЛАТНАГА СТАНОВІЦЦА ЎСЁ МЕНШ

**ГРОДНА (Б. ПРАКОПЧЫК). 50 тысяч рублёў трэба будзе заплаціць у гарадскую казну малым прадпрыемствам, кааператывам, таварыствам з абмежаванай адказнасцю за адкрыццё на тэрыторыі горада магазіна, сталовай, кафэ. Дзяржаўным, сумесным прадпрыемствам або калгасам за адкрыццё, напрыклад, фірменнага магазіна давядзецца выкласці 200 тысяч рублёў.**

Такое рашэнне прыняў Гродзенскі гарвыканком. Атрыманыя сродкі пойдуць на фінансаванне расходаў гарадской гаспадаркі, у прыватнасці, на пражыванне ў інтэрнатах работнікаў бюджэтных арганізацый. Адно ложка-месца, дарэчы, цяпер каштуе ў месяц каля шасцісот рублёў. А зарплата многіх медсясцёр не дасягае і дзвюх тысяч.

Зразумела жаданне ўладаў неяк дапамагчы тым жа медработнікам. А вось асобам, якія арыштаваны ў адміністрацыйным парадку і знаходзяцца ў ізалятарах часовага ўтрымання і спецпрыёмніках абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, на асаблівыя льготы разлічваць нельга. За сваё ўтрыманне і харчаванне ім цяпер давядзецца плаціць з уласнай кішэні па 50 рублёў у суткі.

## СТРАЧАНЫХ ІЛЮЗІЙ НОВЫ ВЕК

**— Займаючыся творчасцю ці духоўнай работай, прыходзіш да разумення неабходнасці процістаяння недасканаласці свету, гаротнасці жыцця. Гэта процістаянне вымушае пачаць адкрытую барацьбу ці пайсці шляхам «заглыблення» ў стварaемую самім сабой ілюзію, паступова ператвараючы гэтую ілюзію ў рэальнасць, — так мяркуе мастак Віктар Ярэська, які працуе ў стылі эйр-браша.**

Што ўяўляе гэты напрамак і як прыгожая мара можа ўзрушыць звыклае існаванне, вы пазнаеце, калі ўбачыце творы, якія аўтар выставіў у памяшканні, прадастаўленым галерэяй «Віта Нова» (па вуліцы В. Харужай).

Можна спрачацца з меркаваннямі мастака наконт жыцця. Але, напэўна, страчаныя ілюзіі, рэха якіх яшчэ гучыць рэквіемам у нашых душах, не стануць для чалавека вытокам добрых эмоцый. Быць рэалістамі мы яшчэ не навучыліся. Дык што ж: каб пазбавіцца былых расчараванняў, ці не лепей стварыць фантастычную мару аб іншых і прыгожых далячынях?

## interfax

### У ЕРЭВАНЕ СЦВЯРДЖАЮЦЬ, ШТО РАСІЯ ПЕРАДАЛА АЗЕРБАЙДЖАНУ ВЯЛІКУЮ КОЛЬКАСЦЬ ЗБРОІ І БРОНЕТЭХНІКІ

Паводле даных з прэс-цэнтра міністэрства абароны Арменіі, камандаванне дыслацыраванай у Азербайджане расійскай арміі перадало азербайджанскім узброеным сілам новую партыю ўзбраення, тэхнікі і боепрыпасаў, у тым ліку 60 танкаў найноўшых узораў, 70 бронетранспарцёраў, 70 баявых машын пяхоты, 12 установак «Град».

Пакуль аднак, як паведамляе карэспандэнт «Інтэрфакса», ніякіх афіцыяльных заяў Ерэвана наконт гэтага не было.

### КАМІСІЯ ДЗЯРЖАТАМНАГЛЯДУ ІНСПЕКТУЕ СХОВІШЧЫ РАДЫЕАКТЫЎНЫХ АДХОДАЎ У КРАСНАЯРСКУ-26

Эксперты Дзяржатамнагляду Расіі на чале са старшынёй камісіі па нагляду за ядзернай і радыяцыйнай бяспекай Юрыем Вішнеўскім, пабываўшыя з інспекцыяй у Краснаярску-26, прызналі надзейным узровень эксплуатацыі сховішча адходаў ядзернага паліва, што там знаходзіцца. Разам з тым камісія Дзяржкаматамнагляду выказала заклапочанасць у сувязі з адсутнасцю канцэпцыі існавання падобных сховішчаў на тэрыторыі Расіі, а таксама непрапрацаванасцю пытання аб рэабілітацыі тэрыторыі сховішча ў Краснаярску-26.

### У МАСКВУ ПРЫЯЗДЖАЕ СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАДСТАЎНІК ПРЭЗІДЭНТА ЧЫЛІ ДЛЯ АБМЕРКАВАННЯ ЛЁСУ ЭРЫХА ХОНЕКЕРА

У Міністэрстве замежных спраў Расіі чакаюць прыезду ў Маскву спецыяльнага прадстаўніка прэзідэнта Чылі Джэймса Холгера для перагавораў аб далейшым лёсе былога лідэра былой ГДР Эрыха Хонекера. Як паведаміў «Інтэрфаксу» дырэктар Дэпартамента інфармацыі і друку Міністэрства замежных спраў РФ Сяргей Ястржэмбскі, паводле папярэдніх даных, Д. Холгер прыбудзе ў Маскву ў канцы чэрвеня—пачатку ліпеня.

Па яго словах, чылійскі бок не накіроўваў у расійскае Міністэрства замежных спраў ніякіх дакументаў, якія сведчылі б аб намеры назначыць Д. Холгера паслом у Маскве замест Кладаміра Альмейды. К. Альмейда раней прадаставіў Э. Хонекеру статус «госця» чылійскага пасольства ў Расіі.

### У МАСКВЕ АБРАБАВАНЫ НА 10 МЛН. РУБЛЁЎ ГРАМАДЗЯНІН ІНДЫІ

Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў прэс-цэнтры Міністэрства замежных спраў Расіі, у мінулую сераду ў Маскве абрабаваны амаль на 10 млн. рублёў грамадзянін Індыі.

Увечары 24 чэрвеня супрацоўнік адной з індыйскіх фірм, які знаходзіцца ў расійскай сталіцы па запрашэнню, звярнуўся ў 113-е аддзяленне міліцыі са скаргай. Па яго словах, раніцай таго ж дня ў кватэру на вуліцы імя 800-годдзя Масквы, якую ён часова здымае, увайшлі 4 злачынцы. Пагражаючы нажом і прадметам, падобным на пісталет, злачынцы забралі ў індыйскага грамадзяніна 6 млн. 200 тысяч рублёў, 29 тысяч долараў ЗША, 3 тысячы фунтаў стэрлінгаў, 1,5 тысячы нямецкіх марак, а таксама асабістыя дакументы. Маскоўская міліцыя пачала пошук злачынцаў.

## СЕЛЬСКІЯ БАКАЛАЎРЫ

**ГРОДНА (А. Дук). У хуткім часе сельскагаспадарчы інстытут пачне выпускаць бакалаўраў і магістраў сельскагаспадарчых навук.**

Першы крок да гэтага будзе зроблены ў гэтым годзе. У інстытут мяркуецца прыняць выпускнікоў Навагрудскага саўгаса-тэхнікума, якія маюць рэкамендацыі педсавета і атэстацыйнай камісіі, без уступных экзаменаў. Пасля заканчэння трэцяга—чацвёртага курсаў выпускнікі ВНУ атрымаюць дыплом, а лепшыя — званне бакалаўра. Хто вырашыць вучыцца далей, скончыць інстытут магістрам. Каб не было разрыву ва ўзроўні адукацыі інстытута і тэхнікума, у іх распрацаваны адзіныя вучэбныя планы.

## ЗАКОНЫ РЫНКУ АДЗІНЫЯ

Падпісаннем узаемавыгадных кантрактаў паміж фірмамі СНД і ЗША ў Мінску 26 чэрвеня завяршылася другая беларуска-амерыканская канферэнцыя па пытаннях прыцягнення прамых замежных інвестыцый, развіцця знешнеэканамічнага супрацоўніцтва і абмену эканамічнай інфармацыяй «Бізнес-92». Вопытныя амерыканскія бізнесмены і іх пачынаючыя калегі з Беларусі, Расіі і Украіны сумесна вызначылі меры, якія неабходна прыняць для ўдасканалення прававой базы прадпрымальніцтва, стварэння спрыяльных умоў для дзелавой актыўнасці, у тым ліку і прыцягнення замежнага капіталу. Надзвычай карыснымі аказаліся перагаворы амерыканскіх экспертаў з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета і ўрада Беларусі, якія дадуць новы імпульс для развіцця сумеснага бізнесу.

(БЕЛТА).

## ВОСЬ ДЫК АХОВА!..

**ГОМЕЛЬ. Работнікам правапарадку ўдалося «накрыць» трох вартаўнікоў ведамаснай аховы завода «Гомелькабель». Замест таго, каб пільна несці дзяжурства, яны вырашылі «падчысціць» заводскую тэрыторыю і паспрабавалі вынесці з яе 4 тысячы 700 кілаграмаў меднага дроту коштам больш за 800 тысяч рублёў.**



**У творчасці брэсцкага мастака заслужанага дзеяча культуры Івана Якаўлевіча Фяцісава арганічна суседнічаюць такія жанры, як партрэт, пейзаж, ёсць сцэны баталій. Апошнія знаёмыя майстру не па кнігах або расказах. Іван Якаўлевіч прайшоў дарогамі Вялікай Айчыннай з першага і да апошняга яе дня. У свае 70 гадоў мастак па-ранейшаму ля мальберта, любіць жыццё і людзей, для якіх працуе, у яго зоркае вока і дакладны мазок, шмат творчых планаў і задум.**

**НА ЗДЫМКАХ: 1. Іван Якаўлевіч ФЯЦІСАЎ. 2. Работа І. Фяцісава «У Афганістане».**

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (БЕЛТА).**



## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### «КАМПАНІЯ» «АСТАНКІНА» ПРАЦЯГВАЕЦЦА

У сярэдзіне мая ў міліцыю звярнулася Таццяна Судзец, вядомы дыктар тэлекампаніі «Астанкіна». З дому пайшоў і не вярнуўся яе 25-гадовы сын А. Грушын. Справу ўзялі пад кантроль у МУС Расіі. І вось непадалёк ад Серпухава знайшлі цела Грушына. Як сцвярджаюць матэрыялы справы, ён стаў ахвярай злачынцаў, якія білі Грушына, пераламалі яму косці, а потым дабілі да смерці і закапалі. Матывы злачынства пакуль што не вядомы. Пошук забойцаў вядуць сумесна сталічная і абласная міліцыя.

### «ДЭСАНТ» КІТАЙЦАЎ НА КАЗАХСТАН

**Чатырыста майстроў-агароднікаў прыехалі з Кітая ва Усходні Казахстан для абучэння мясцовых сялян. Жыхары рэспублікі ў сваю чаргу паставяць у Кітай мінеральныя ўгнаенні.**

### ПАЦУКІ ІДУЦЬ У АТАКУ

Пацукі і мышы сталі сапраўдным бедствам для жыхароў Першаўральска. Зусім нядаўна ахвярай «хвастатых бандытаў» стала двухгадовая дзяўчынка. Чатыры велізарныя пацукі напалі на дзіця прама ў пакоі інтэрната. Своечасова прыбегшыя бацькі выратавалі жыццё дачкі, аднак дзяўчынка шпіталізавана, лячыцца ад укусаў будзе не менш месяца.

### ВОСЬ ДЫК ГАРЭЛКА

**Без чаргі, прама з машыны можна было набыць па невялікай цане гарэлку на прывакзальнай плошчы Казані. На жаль, у бутэльках аказалася вадкасць, якая больш нагадвала ацэтон.**

### «БУЛЬБЯНЫЯ» РЭКЕЦІРЫ

На прысядзібных участках пад Екацярынбургам з'явіўся новы від агародных шкоднікаў. Невядомыя асобы пачалі патрабаваць ад гаспадароў сторублёвы «падатак» за карыстанне зямлёй. Інакш «бульбяныя» рэкеціры пагражалі выкапаць увесь будучы ўраджай. Ведаючы, што год будзе галодны, а міліцыі ў чыстым полі не знайсці, многія падпарадкаваліся патрабаванням вымагальнікаў. Аднак ці засталася ў іх упэўненасць у захаванасці ўраджаю?

### ШЛЮБ З ПЕРШАГА ПОГЛЯДУ

**У маладзёжным кафэ № 2 горада Куйбышава Новасібірскай вобласці адбылася гульня-шоу «Каханне з першага погляду». У канцы вечара высветлілася, што ўсе тры маладыя чалавекі закахаліся ў адну і тую ж дзяўчыну, а ўся тройка дзяўчат — у аднаго хлопца. Але галоўным сюрпрызам гульні-шоу стала тое, што наспечаныя «Рамэо» і «Джульета» тут жа абвясцілі аб рашэнні пажаніцца.**

## І на сяле беспрацоўныя...

**Першыя 20 чалавек, якія сталі атрымліваць дапамогу па беспрацоўю ў Пінскім раёне, жывуць у асноўным у прыгарадных вёсках. Раней яны або працавалі непасрэдна ў горадзе, або мелі так званыя «гарадскія» прафесіі.**

Наогул, людзі, якія жывуць у вёсцы, а працуюць у горадзе, сёння найбольш верагодныя кандыдаты ў беспрацоўныя. Скажам, прамыслова-гандлёвае аб'яднанне «Палессе» раней у пошуку рабочых рук ішло на тое, каб за свой кошт вазіць работнікаў у Пінск і назад, у вёску. Зараз ад гэтага прыйшлося адмовіцца. І каб не губляць работу, сяляне за свае грошы вымушаны самі арандаваць аўтобус.

Але магчыма неўзабаве аб дэфіцыце рабочых месцаў даведаюцца і ў сельскай глыбінцы. Перад намі прыклад суседняй Украіны. Менавіта адсутнасць работы гоніць жыхароў з самых аддаленых украінскіх вёсак на заработкі ў беларускае Палессе. На ўкраінцах, дарэчы, трымаецца вырошчванне буракоў у Пінскім раёне. Нават за нашы «зайчыкі».

**Па «Розгаласу» дзяжурылі А. Коктыш, А. Сланеўскі, С. Сулкоўскі, І. Шчучэнка. Тэл. 32-44-02, 32-43-03.**

# Пытанне, якое наспела, але... няхай выкажацца грамадскасць

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Але — разавай, а не пажыццёвай. Званне ж даецца на ўсё жыццё — і той, хто яго атрымаў (у тым ліку — хто яго «выбіў», «вырваў», «выклянчыў»), афіцыяльна становіцца творцам вышэйшай або найвышэйшай катэгорыі — **пажыццёва.** Ці добра гэта? Ці разумна? Кожны з нас, напэўна, не раз быў сведкам: выступае на сцэне ці на экране творца (спявак, музыка, паэт) са званнем — а ўражання ніякага. У той жа час — сціплы і не заўважаны начальствам — таварыш без звання... ого, які талент! Дык дзе ж справядлівасць? Зрэшты, для маральнага заахвочвання ёсць разавыя дзяржаўныя ўзнагароды — ордэны, медалі, граматы...

Якія яшчэ довады на карысць меркавання камісіі? Па-першае, успомнім, калі і для чаго гэтыя званні пачалі ўводзіць? У самым пачатку 30-х, у найгоршы для мастацкай творчасці час. Дзеля чаго? Каб стымуляваць ідэйна-партыйную вытрыманасць творчасці і самога творцы (адступнікам ад «веры» званні не даваліся). Сёння гэты палітычны крытэрый выглядае ганебным перажыткам. Па-другое, «барацьба» (нябачная народу, падпольная) за званне адмоўна ўплывае на маральную атмасферу ў творчым асяроддзі, плодзіць далёка не лепшыя пачуцці і распальвае непатрэбныя, шкодныя, згубныя для творчасці страсці. Работа ў камісіі пераконвае ў гэтым амаль штодзённа. Па-трэцяе, цывілізаваны свет (за нязначным выняткам) гэтай практыкі не прыняў. Была спроба ў Чэха-Славакіі, у Балгарыі, можа, яшчэ дзе-небудзь. Дарэчы, гады тры назад урад Балгарыі адмяніў ганаровыя званні наогул як менавіта немэтазгодныя.

Напэўна, сёй-той запытае: а дзе вы былі раней, чаму вы ўжо даўно не зрабілі такую прапанову? Ды быў там, шаноўныя спадары-таварышы, дзе і вы: на гэтай няшчаснай, выклятай Богам зямлі, быў з вамі і сярод вас, гэтакі ж ашуканы, растурзаны і панявечаны, як і вы. І разам з вамі чакаў, калі ж нехта больш разумны скажа: ды перастанем жа смяшыць людзей, перастанем гуляць у дзіцячыя забаўкі. Калі нам павінна быць зусім-зусім не да забаў!.. Сапраўды, у жахлівым, катастрафічным становішчы апынуліся мова і культура народа, трэба ўсе сілы класці на нацыянальнае адраджэнне, а таленавітыя сыны і дочкі Беларусі кладуць свае сілы на здабыццё рэгалій. Між іншым, паглядзіце, колькі ў нас сярод носьбітаў ганаровых званняў тых, хто і трох слоў не звяжа на мове народа, імем якога ўвенчаны. А Уладзімір Караткевіч ні звання, ні прэміі пры жыцці не атрымаў. Успамінаю пасяджэнне партгрупы камітэта: за прысуджэнне Караткевічу Дзяржаўнай прэміі Беларусі змагаліся два чалавекі — мастак Васіль Шаранговіч і аўтар гэтых радкоў (В. Быкаў і М. Савіцкі — двое беспартыйных на ўвесь камітэт — не прысутнічалі, сядзелі за дзвярыма).

Як жа быць, запытаеце, з тымі званнямі, што прысвоены ўжо? А ніяк! Застануцца фактам не лепшага перыяду нашай гісторыі. Карыстацца ж імі — не трэба.

Напэўна, сёй-той запратэстуе: маўляў, ну, як жа, гэта ж усё такі званне ад імя дзяржавы, сама дзяржава ўшаноўвае, прысвойвае найвышэйшы тытул — «за выдатны ўклад», «за вялікія дасягненні»... Дзяржава? Наша дзяржава аддае належнае майстрам нацыянальнай літаратуры і мастацтва? Ды што вы, шаноўныя! Вы проста нічога не ведаеце. Схадзіце і паглядзіце, як жывуць, на якой пенсіі сядзяць састарэлыя «народныя СССР», «народныя і заслужаныя БССР», найталенавіцейшыя людзі гэтай зямлі, якія ўсё жыццё беззапаветна служылі «народу і Радзіме». Служылі і даслужыліся. Спаборнічаць з маладымі і энергічнымі яны ўжо не маюць сілы, ды і з павагі да свайго мастацтва не стануць рабіць гэтага, ну, а зберажэнняў не накапілася, зарплата была на ўзроўні... Таму і дагараюць ціхенька, моўчкі, гледзячы, як на блакітным экране красуюцца новыя залатазубыя гаспадары жыцця. Калі пачуеце, што кагосьці з іх не стала — ведайце: душа пагасла ад бядотнага становішча і ад крыўды. Вось яна, калі ўжо на тое, сапраўдная цана нададзенага дзяржавай высокага звання. І цана самой дзяржавы, выбачайце...

Такое наша патлумачэнне да гэтай незвычайнай пастановы. Не сумняваемся, што адносіны да выказанай прапановы будуць не адназначныя, што думкі выявяцца розныя. Дык то ж і добра! Можа быць, наша камісія памыляецца, можа, грамадскасць палічыць, што ў нас інакай няможна?.. Ну, што ж: голас народа — голас Божы!..

**Ад імя камісіі Ніл ГІЛЕВІЧ.**

(БЕЛТА).

## Граф Аляксандр ПРУШЫНСКІ:

# «Убачыць Беларусь на карце свету...»

**Грамадзянін Польшчы і Канады граф Аляксандр Прушынскі жыве ў Канадзе, у Таронта. З'яўляецца ўладальнікам нерухомасці, выдае польскамоўную газету. Цяпер грамадзянін дзвюх дзяржаў знаходзіцца ў беларускай сталіцы. І, відаць, затрымаецца тут надоўга... Што ж прывяло заморскага прадпрымальніка ў Мінск!**

— Вядома ж, некалькі дзіўнай, на першы погляд, можа здацца мэта майго зацягнутага, скажам так, візіту. Але я прыехаў у Беларусь не на дзень-два. Скажу больш — я нават хачу стаць грамадзянінам вашай суверэннай дзяржавы. Я нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, у Ваўкавыску. Мне дарагі гэты край. І, прызнаюся, да болю ў сэрцы крыўдна, што Беларусь і да гэтага часу застаецца мала вядомай у свеце дзяржавай.

Мая галоўная задача — зрабіць усё магчымае для самага шырокага знаёмства ўсяго свету з вашай рэспублікай.

**— Але хіба гэта пад сілу аднаму чалавеку!**

— Адчуваю, што ваш скепсіс абумоўлены традыцыйным, вузкім мысленнем. Па-першае, у некаторай ступені я багаты чалавек. Па-другое, свой «фарпост» на Беларусі я ўстанаўліваю, каб аб'ектыўна планаваць тыя ці іншыя звязаныя з вашай дзяржавай шырокамаштабныя міжнародныя праекты. А значыць — фарміраваць пэўную грамадскую думку, шукаць аднадумцаў у дапамозе Беларусі і ў прадстаўленні яе Амерыцы і Еўропе.

**— Які першы крок у гэтым напрамку вы зробіце!**

— 1992 год гістарычна значны для многіх народаў як былога СССР, так і амаль што ўсіх еўрапейскіх дзяржаў. Вайна 1812 года, напалеонаўскае нашэсце на Расію ўскалыхнулі ўвесь свет. Сотні, тысячы тамоў напісаны ваеннымі і цывільнымі гісторыкамі аб падзеях 1812 года, пра Напалеона, Барадзінскую бітву. Але калі гавораць пра той час, то, нават успамінаючы Бярэзіну, Барысаў, Віцебск, іншыя месцы баёў на вашай зямлі, чамусьці забываюць пра Беларусь. А менавіта тут, у дзяржаве, абпаленай ваенным ліхалеццем, адбыліся многія важныя падзеі 1812 года. Дык чаму ж на Беларусі не правесці шырокамаштабныя ўрачыстасці, прысвечаныя Айчыннай вайне 1812 года... Не трэба нікога ні ў чым абвінавачваць. Давайце збяромся разам і пагаворым пра ўрокі гісторыі, пра тое, што сёння самым розным народам неабходныя ўзаемаразуменне і ўзаемапавага. Чаму б Беларусі не стаць у цэнтры гэтага руху? Гэтым самым яна заявіла б аб сабе на ўвесь свет.

**— Але па цяперашніх мерках эканамічнага, а ў некаторай ступені і грамадска-палітычнага хаосу задуманая вамі акцыя асабіста мне ўяўляецца цяжка ажыццявімай.**

— Не магу пагадзіцца. Задуманае мерапрыемства ўжо знаходзіць падтрымку. І ў афіцыяльных структурах беларускай дзяржавы, і сярод ваенных. Спадзяюся, што ў гэтым нам дапаможа і Фонд сацыяльнай абароны ваеннаслужачых. Вядома ж, часу на традыцыйную «раскачку» практычна няма. Трэба правесці вялікую арганізацыйную работу. Першае, што з найбольш важных задач стаіць перад намі сёння, — стварэнне міжнароднага аргкамітэта па правядзенню ў Беларусі мерапрыемстваў, прысвечаных 180-й гадавіне Айчыннай вайны 1812 года.

**— Што ж, будзем спадзявацца, што ваша ініцыятыва знойдзе самую вялікую падтрымку і на Беларусі, і ва ўсім свеце.**

**Інтэрв'ю ўзяў капітан Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

